Цана асобнага нумару 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 79 (130). Вільня, Субота 29 Кастрычніка 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).

Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.

Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска: на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал. Для заграніцы удвая даражэй.

Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі

ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Першы крок.

Хоць нам і „Наша Праца" і „Беларускае Слова", быццам згаварыўшыся, адначасна пастараліся прыпісаць сякія-такія перадвыбарныя работы, праўда, даволі разнарэчывыя, пабіваючы заявы „Нашай Працы„ „Беларускім Словам" і наадварот, але-ж мы да гэтага часу фактычна яшчэ нічога не рабілі ў сэнсе падгатоўкі да выбараў у Сойм і Сэнат. Не рабілі і на'т не гаварылі, бо ня мелі на гэта абсалютна ніякіх дадзеных.

І толькі цяпер, дзякуючы артыкулу „Выбарчыя запаведзі" „Віленскага Кур'ера", мы запраўды робім першы крок да плятформы наступаючых выбараў.

„Кур'ер Віленскі" зьяўляецца тэй газэтай, якая, ўсякімі праўдамі ці няпраўдамі, трымаецца за ўрад марш. Пілсудскага, а за тое, некаторыя закулісныя дэталі ёй ведамы. Дык вось, гэтая ўрадавая газэта напісала у сваіх „Выбарчых запаведзях".

„Ледзь некалькі месяцаў дзеліць нас ад выбараў да ўставадаўчых уладаў. Адбудуцца яны ці хто хоча, ці ня хоча на падставе старое выбарнае ардынацыі..." Гэта знача па старым законам і старым парадкам...

Гэтая заява ўрадавага амаль-што афіцыёза заслугоўвае ў вялікай меры на веру, дык дзеля гэтага цяпер пастараемся і мы зрабіць некаторыя вывады маючы вышэй паданыя дадзеныя.

Перадусім глянем на ўклад палітычных арганізацыяў Заходняе Беларусі!...

Што-ж мы тут пабачым? А вось што!... Мы бачым добры дзесятак, як беларускіх так і польскіх палітычных партыяў, ці то ўжо болей-меней скрысталізаваных ці толькі ўзьнікаючых, якія тым ці іншым спосабам будуць імкнуцца заманіць беларускага селяніна, каб на яго сьпіне вывезьці сваіх кандыдатаў да пасольскіх мандатаў. Гэткі стан рэчаў зьяўляецца вялікаю пагрозаю для Беларускага Народу. Калі пачнуць скубаці яго і калі вырвуць па аднэй ды па другой пярынцы, дык ясна, падушкі ня будзе.

Пры гэтакім стане рэчаў Беларускі Народ безумоўна вельмі многа страціць!... Дык дзеля гэтага і зьяўляецца абавязкам таго, ад каго залежыць, пастарацца, каб магчымае няшчасьце адхіліць, ці прынамся паменшыць.

Хто можа і як павінен пакіравацца да ўхіленьня магчымага няшчасьця? Безумоўна той, хто кіруе цяпер палітычнымі акцыямі партыяў і груповак.

Мы ведаем, што мясцамі сярод беларускага жыхарства маюць, праўда, нязначныя ўплывы польскія, але-ж перавага ўсё-ж такі на старане беларускіх партыяў.

Дык першым крокам да ўхіленьня няшчасьця павінна быць каб сапраўды беларускія партыі паразумеліся паміж сабою і стварылі беларускае аб'еднаньне, а тагды ўжо, каб у далейшай сваей працы, можна было асягнуць найлепшыя рэзультаты.

Хто-ж павінен тварыць беларускае аб'еднаньне?

Ужо не для каго не зьяўляецца сакрэтам, што, як-бы не працавалі ў якіх-бы адносінах у сваей папярэдняй працы не канкуравалі, дык і па стажу і багажу працы і па ўзнаньні і па вялічыне ўплываў зьяўляюцца запраўднымі выявіцелямі інтарэсаў і жаданьняў Беларускага Народу: Беларускі Сялянскі Саюз, Беларуская Хрысьціянская Дэмакрацыя і тая група, якая так ці іначай арганізавана ці арганізуецца каля „Нашай Працы".

Дык вось гэтыя тры палітычныя волаты павінны стварыць беларускае аб'еднаньне прыцягнуўшы да сябе некаторых беспартыйных, але-ж чыстых беларускіх дзеячоў...

Мы кідаем гэтую думку на суд нашага грамадзянства і для водкліку таго, каго гэта датыкае. І ня наша віна будзе, калі людзі ня знойдуць добрай волі і ня пойдуць супольна на фронт палітычнага змаганьня за правы Беларускага Народу.

Скарга.

## Вокам па сьвеце.

На некалькі дзён увагу сьвету захапіла на сутнасьці ня надта вялікае зьявішча. У Парыжы разглядалася судовая справа забойства Шварцбардам, жыдам па нацыянальнасьці, украінскага атамана Пятлюры.

За гэтае забойства Шварцбарду пагражала кара сьмерці, але-ж сталася так, што Шварцбарда суд апраўдаў.

У чым-жа справа? А вось у чым! Шварцбард, якога да гэтага часу ніхто яшчэ ня знаў, забіў Пятлюру за тое, што ў часе расейскае рэвалюцыі і пераваротаў, адбыліся паўсюдна на Украіне пагромы хрысьціянамі жыдоўскага жыхарства. Прынамся гэтак тлумачыўся сам Шварцбард.

У часе тых пагромаў Пятлюра быў начальнікам украінскае незалежнае дзяржавы, а дзеля гэтага і палічыў яго Шварцбард, а цяпер і парыскі суд, адказным за ўсё тое, што рабілася ў дзяржаве.

Гэта сьцьвердзіў, старшыня Лігі праў грамадзяніна і чалавека. А здаецца, гэтакае цьвярджэньне і паслужыла тым аргумэнтам, які пазбавіў Шварцбарда кары за забойства.

Сочачы за ходам судовага працэсу мы чулі, што Пятлюра, хоць фармальна і лічыўся атаманам Украіны, але-ж фактычна не зьяўляўся гэтакім, бо ня меў фізычнае сілы і ніякае іншае магчымасьці, загарнуць уладу.

Мы чулі, што Пятлюра быў проці пагромаў, але-ж абарона Шварцбарда даказала, што, хоць Пятлюра і выказваўся проці пагромаў, аднак-жа нічога не рабіў, каб спыніць іх.

Мы не зьяўляемся ворагамі ані жыдоўскага ані украінскага народу і ня будзем судзіць сумны інцыдэнт, які здарыўся між імі з прычыны пагромаў і забойства Пятлюры Шварцбардам. Мы пішам гэта дзеля таго, што вельмі зацікавіліся той шырокай арганізаваннасьцю абароны Шварцбарда, якую бачым на судзе.

У абароне аднэй асобы брала ўдзел жыдоўства ўсяго сьвету, бяз рожніцы палітычных груповак, дзяржаўнае прыналежнасьці пад павадыўствам атэіста францускага жыда Тарраса. Гэта самае мы хочам зрабіць „сымболем" беларускаму народу, які найбольш, у параўнаньні з іншымі народамі, кульгае на адсутнасьць абавязку дапамогі і спачуваньня роднаму брату ў яго няшчасьці.

З Парыжа, ад берагоў ракі Сэны, дзе здарылася крывавая трагэдыя, сьпіганем на другі бераг уходняй паўкулі нашай плянэты, дзе разыгрываецца большая крывая драма, у Кітай. Вось ужо у працягу трох гадоў, ідзе там жорсткая, кровалітная і братабойчая „хатняя" вайна паміж самымі кітайцамі.

Ваююць там тры варожыя лагеры, а імена: буржуазна-капіталістычны, манархістычнае ідэалёгіі, нацыялістычна-рэспубліканскі, народна-сацыялістычнае ідэалёгіі і камуністычны. Кожны з гэтых трох лагераў імкнецца пабіць два сабе варожыя, каб поўнаўладна запанаваць над усім Кітаем. Але-ж ніяк і ніхто не здабудзецца на такую сілу, каб аканчальна перамагчы сваіх праціўнікаў.

Было многа гэткіх мамэнтаў, калі здавалася, што лёс таму ці іншаму лагеру ўжо дарыў перамогу, аднак-жа крывая лінія лёсу так зьвівалася, што ўсё ляцела далоў, як пух ад ветру, а фронт змаганых занімаў іншыя пазыцыі.

Што-ж выяўляе кожны з гэтых лагераў?

Можна было-б астанавіцца над кожным з гэтых лагераў і разглядаць падрабязна, але-ж ня будзем гэтак рабіць дзеля таго, што нашым чытачом пэўня ведама, што зьяўляе сабою манархізм. Гэта ўлада аднаго над усімі, які падзяляе здабыткі ўлады паміж прывілеяванымі клясамі буржуазіі, абшарнікаў і капіталістых. Ведамы нашым чытачом і камунізм... Дык спынімся над трэйцім лагерам, які фігуре ў кітайскай хатняй вайне — нацыянальна-сацыялістычным. Гэта такі лагер, які жадае, каб кітайскі народ быў запраўдным гаспадаром у Кітаі, бо дагэтуль там фактычна панавала сусьветная буржуазія. Гэтак у адносінах да нацыянальнае справы. Сацыяльна ператтварыць эканамічнае палажэньне Кітаю гэтак, каб кожны бедны чалавек меў магчымасьць існаваць ня будучы няволь-нікам буржуя.

Хто-ж пераможа? Адказаць немагчыма, бо ў хвалях, яшчэ нічога ня відаць...

Пакідаючы берагі далёкага ад нас Спакойнага ці іначай кажучы Вялікага акіяну, цераз сібірскія пушчы і тундры, ды шырокую вялікарасейскую раўніну пяройдзем туды, дзе ўсяго некалькі гадоў таму назад пралягла новая дзяржаўная мяжа. Пераходзім да савецка-латвійскага дагавору аб ненападаньні. Справа ў тым, што ад часу заканчэньня апошніх ваенных суматохаў, пагроза новае вайны ўвесь час вісіць над народамі кожнае дзяржавы. Урады разумеюць, што у вайне — няшчасьце іх народаў, дык стараюцца неяк быццам адхіліць гэтую пагрозу. Перш-на-перш гэтакае адхіленьне выяўлялася саюзамі паміж тымі дзяржавамі, якім пагражае адна і тая самая небясьпека, або якія паміж сабою ня маюць спрэчак. Паўсталі саюзы, напр. Польшчы з Францыяй, каб супольна бараніцца ад Нямеччыны, Польшчы з Румыніяй, каб мець пэўную адпорнасьць проці чырвонае Расеі і г. д.

Аднак-жа гэта не давала патрэбнае гваранты, дык паасобныя дзяржавы хапіліся за

